Год VI. Люты № 2 (62).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над ґнягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі.“
ЯНКА КУПАЛА



ВІЛЬНЯ, 1934 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 1

ЗЬМЕСТ № 1:



## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю | S, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к. | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |


# „Шлях Моладзі"

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1 — 3

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год VI. | Вільня, Люты 1934 г. | № 2 (62). |
|---|---|---|

## На моры.

*(Прысьвячаю 5-тым угодкам «Шляху Моладзі»).*

*Морам глыбокім, эх, морам шырокім*
*Ў лодцы нясуцца плывуць маракі —*
*Морам нясуцца, з хвалямі б'юцца,*
*Сіл не шкадуюць — яны сьмельчакі.*
*Хмары над імі клубамі сваімі*
*Ўюцца патворамі, ўюцца кругом —*
*З неба зьвісаюць, хвалі ўздымаюць,*
*Круцяцца-ўюцца і скачуць з віхром.*
*Вецер над морам. Над страшным прасторам*
*Тхлані глыбокай, глыбокай бяз мер,*
*Сьвішча-нясецца ён, шквалами б'ецца,*
*Вые скавыча, як ранены зьвер.*
*Мора за імі, эх, мора прад імі —*
*Стогне, клякоча яно і гудзе*
*Хвалі на моры, як зьмеі патворы,*
*Пеняцца пенай у чорнай вадзе.*
*Валам за валам ў пагоні за шквалам*
*Хвалі адна за другою бягуць,*
*Пену шпурляюць, вадою хапаюць —*
*З тхлані ўзяўшы, у тхлань аддаюць*
*Хвалі патворы ў бушуючым моры*
*Лодку хістаюць з бакоў у бакі.*
*Пенай плююцца, брызгамі б'юцца,*
*Злосьць іх шалее.. Зважай, маракі!*
*Сум адгані..*
*Дружна вяслуй!*
*Цьвёрда стыруй!*
*Вёсламі рэжце,*
*Лодкай душэце*

Хваляў навал!
Гэй, прабівайце
І прарывайце
Пеністы шквал!
Бачыцца ў далі, дзе топяцца хвалі
Й топіцца з імі зьнямоджаны шквал,
Скуль уцякае і тхланя марская
Ў далі той бачыцца берагу вал.
Галавы ўзьняўшы, на берaзе стаўшы,
Грозна на мора глядзяць маякі,
Стаўшы радамі сыплюць агнямі
Ў далі марскія... Глядзі, маракі!
Сум адгані!
Дружна вяслуй!
Цьвёрда стыруй!
Кіруй...
На агні!

УЛАД-ІНІЦКІ.

---

NIE PADDAVACCA!

(Pracaŭnikom „Šlachu Moładzi“ ŭ 5-tyja ŭhodki ichniaj samatužnaj pracy).

Kali vichor pačnie bandyckija napievy,
I vyje z pośvistam spad płotaŭ i vubłoŭ;
I złosna ŭzdymajecca, kab hnuć haliny drevy,
Łamać i šturchacca, lacieć nastrymhałoŭ —

Tryścinka kvołaja prad siłaju sahniecca,
Ale nia daść, adnak, siabie pierałamać.
Kali paśla vichor zahinie, praniasiecca —
Badziora hołavu iznoŭ pačnie trymać.

Tak treba j nam, braty, vichrom nie paddavacca
I nie pazvolić im siabie pierałamać,
Pry dobrych pohladach zaŭsiody astavacca,
Badziora hołavu prad voraham trymać.

Byvaje, što raka uzburycca viasnoju,
Zimovy brud uvieś z paloŭ sabie ŭvaśsie
I plunie śnieżnaj i mutnaju ślinoju
Na tvar abchoplenaj pryrečnaj pałasie;

Mahutnym homanam hudzić, abo rahoča
I dzikim hołasam zachopnickim ravie,
Razvodździem — potapam usio zalici choča —
Zdavałasia-b—nichto prad jeju nia ŭžyvie.

A traŭka kvołaja, maleńkaja takaja,
Patrapić koraniem ŭ syroj ziamli siadzieć,
Zachopnicki impet razvodździa pračakaje,
Paśla, kab vyraści, pryhoža zarunieć.

Chacia j zdarajecca — zachopnicka navała
Jaje maleńkuju piaskom ŭsiu zaniasie —
Jana usiotaki, choć trudzicca niamała,
Spad iłu vyrviecca, hałoŭku padniasie.

Tak treba j nam, braty, badziora ŭsim trymacca,
Impet zachopnicki kab nas nie pieramoh.
A buduć nas dušyć — nia treba paddavacca,
Choć-by sam satana hniaści nas im pamoh.

A voś byvaje tak, što letniaju paroju
Ŭsie chmary ciomnyja źbirajucca zusiul
I prucca ŭsie ŭpiarod vializnaju haroju,
Zachopnicka płyvuć, niaviedama i skul;

Na ciomnym dyvanie małankaju zaźjajuć,
Hałosiać hromami i buraju zadźmuć,
Dałoniaj čornaju paletki abchaplajuć,
Kab liŭniem — potam zhary na ich chlusnuć.

Ale ŭvieś ich impet nia strašny ŭsio-ž paletkam.
Małanka, livień, hrom nia škodziać im zusim,
Dy heta na't jašče prynosić śviežaść kvietkam
I čyścić lepiastki ad pyłu kraskam ŭsim.

Taksama j nam, braty, nia strašny tyja chmary
Čužyncaŭ—vorahaŭ, što k nam zusiul płyvuć.
Nia strašny ich hrymotnyja na nas udary,
što chitraj podłaściaj dušu narodnu bjuć.

A ichni livień navat zmyje renehataŭ,
Ačyścić naš narod ad roznaje brydy.
Ale nia čepić nam narodnych našych chataŭ,
što prastajali ŭžo biazlikija hady.

A prydzie voś zima; daje svaje zahady;
Hryzie marozami i śnieham ŭsim pluje.
Zdavałasia-b — užo niama nijakaj rady —
Nadoŭha ŭsio jana ŭ akovy zakuje.

A bačyš — soniejka viaśnianaje pryhreje,
Zahlanie sładka zimie u złosny tvar.
Zima jak nia złuje, jak z vietram nia dureje,
A ŭsiotki pojdzie proč — viasna ŭžo haspadar.

I nas zamarazić zima užo nia zmoža,
Nia budzie ŭściaž jana vichury padymać,
Zahlanie sonca nam i praŭda pieramoža
I budziem volna my Kryvicki ściah trymać.

Kazłoŭščyk.

# Пяць гадоў працы „Шляху Моладзі“.

(*16.II.1929 — 16.II.1934*).

Пяць гадоў выдавецкае працы ў нармальных варунках і ў параўнаньні з выдавецтвамі іншых народаў, гэта ня так многа, каб над ёй больш застанаўляцца. На беларускім аднак грунце ў сучасных абставінах 5 гадоў незалежнае, саматужнае выдавецкае працы, гэта ня так ужо і зусім маленькае здарэньне, каб стыдна было аб ім трошкі шырэй гаварыць.

У жыцьці нашага народу здаўна ўжо адчувалася патрэба часопісі для працоўнае вясковае моладзі і справай выдаваньня яе цікавіўся не адзін з беларускіх грамадзкіх дзеячоў. Зьдзейсьніць аднак ім сваіх намераў не пазвалялі цяжкія абставіны, а перадусім нястача матэрыяльных сродкаў на гэта.

Калі мы будзем сачыць за беларускім адраджэнскім рухам у Заходняй Беларусі, дык заўважым, што нястачу беларускае часопісі для нашае вясковае моладзі ад 1929 г. пачынае запаўняць „Шлях Моладзі“.

Скромненькая гэтая часопісь пачала выходзіць дзякуючы стараньням групы беларускае моладзі, у склад якое ўваходзілі: Ізабэля Тумаш, Янка Багдановіч, Мар'ян Пецюкевіч, Альфонс Шутовіч, Уладыслаў Тарасэвіч і Язэп Найдзюк. Гэтая вось група сабраўшыся 16 лютага 1929 г. сарганізавала Рэдакцыйную Калегію і, падзяліўшы паміж сабой ролі працы, прыступіла да выдаваньня часопісі п. н. „Шлях Моладзі“. За мэту ў сваей працы Рэдакцыйная Калегія ўзяла змаганьне за незалежнасьць Беларусі і за палепшаньне народнае долі шляхам буджэньня моладзі да народнае сьведамасьці, пашыраньня асьветы і культуры на вёсцы, узгадоўваньне моладзі ў самастойна-незалежніцкім духу і даваньня ў меру магчымасьцяў для моладзі добрае роднае літэратуры, разрывак і цікава-карысных вестак з жыцьця сусьвету, а так-жа і з беларускага адраджэнскага руху. За падставу ўзялі мы народную ідэолёгію, апіраючыся на хрысьціянскай этыцы.

Выдаваньне часопісі гэта справа ня так лёгкая, бо вымагае адпаведна прыгатаваных працаўнікоў і матэр'яльных сродкаў. З гэтымі двума неабходнымі вымогамі прышлося спаткацца і нам. У нас фактычна ня было ані аднаго, ані другога. Была аднак добрая воля і хоць яшчэ ня зусім выкваліфікаваная, але ўжо здольная да працы сіла тэхнічна-друкарская. Дзякуючы гэтаму, а так-жа дзякуючы моральнаму падтрыманьню са стараны незалежнага беларускага грамадзянства, памаленьку мы прыступілі да працы, паступова перамагаючы перашкоды.

У практыцы праца гэта выглядала так, што трох сяброў Рэдакц. Калегіі—друкароў працуючых у Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны, за згодай уласьнікаў яе, працавалі і працуюць цяпер кожны дзень па поўгадзіны бясплатна, а за гэта раз у месяц друкарня бясплатна друкуе адзін нумар „Шляху Моладзі"; іншыя выдаткі, як папера, аплата за перасылку, брашуроўка і г. д. пакрываюцца з грошаў прысыланых падпішчыкамі (на паперу і на дробныя выдаткі першага нумару былі зложыўшы „з носа па грошу" тыя-ж друкары). Рэшта сяброў Рэдакцыйнае Калегіі ўзяла на сябе абавязак зьбіраньня і падгатоўку матэр'ялаў да друку.



Закладчыкі „Шляху Моладзі": сядзяць з лева на права: Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш, цяпер Шутовіч, Мар'ян Пецюкевіч; стаяць: Янка Багдановіч, Уладыслаў Тарасэвіч і Альфонс Шутовіч.

Выхад у сьвет першага нумару „Шляху Моладзі" спаткаўся наагул з вельмі прыхільным водгукам сярод моладзі і старэйшага грамадзянства. Спатыкалі аднак яго і яго выдаўцоў і „прароцтвы" няўстойкі на занятай пазыцыі. Былі такія людзі, што гаварылі нам проста ў вочы, што „Шляху Моладзі" выйдзе найбольш якіх-небудзь 3—4 нумары і на гэтым закончыцца яго праца. Так аднак, як бачым, ня сталася, і сягоньня мы ўжо сьвяткуем 5-тыя ўгодкі і да сяньняшняга дня вышла ўжо 62 нумары, якія абымаюць 1228 бачын.

За ўвесь час надрукавана ў „Шляху Моладзі": 87 артыкулаў характару ўзгадаваўчага, 38 артыкулаў агульна-

навукова-папулярных, 31 арт. з гісторыі, 17 артыкулаў аб нашых песьнярох і іх творчасьці, 20 народных твораў (песьні і казкі) і аб іх артыкулаў, 7 аб школьніцтве, 6 аб коопэрацыі, 18 з галіны краязнаўства, 14 аб спорце, 8 аб справах рэдакцыйна-арганізацыйных, 6 дыскусыйных, 9 аб арганізацыях моладзі, анкета з 25 умотываванымі адказамі ў справе: „Якімі літарамі друкаваць „Шлях Моладзі", 272 вершы, 38 апавяданьняў і інш. твораў прозай, 113 карэспандэнцыяў, 800 вестак з хронікі, 264 з усячыны і 732 адказы ў рэдакцыйнай „Паштовай скрынцы" на пісьмы нашых падпішчыкаў і супрацоўнікаў.

Аўторамі друкаваных у „Шл.Мол." матэр'ялаў зьяўляюцца людзі розных палітычных кірункаў, рознага веравызнаньня, з асьветай вышэйшай, сярэдняй і пачаткавай, а то і зусім самавукаў. Усіх супрацоўнікаў у Вільні, у краю і заграніцай „Шл. Мол." мае 82 асобы і лічба гэта ўсьцяж павялічваецца.

Лічба падпішчыкаў расьце з кожным днём, але кожны дзень прыходзіцца яе і абцінаць, бо людзі нашы з бяды, ці прывычкі хочуць атрымліваць часопісь дарма; мы-ж, хоць выдаём „Шлях Мол." не дзеля заработкаў, аб чым сьведчыць нізкая на яго падпіска, то аднак з высыланьнем дарма часопісі змагаемся і з гэтай прычыны прыходзіцца бадай што месяц праводзіць чыстку, хоць так-жа неаканчальна. Найслабей стаіць справа з падпіскай сёлета, што, ясна, ёсьць доказам галечы нашае вёскі; запатрэбаваньне-ж высылкі часопісі нават пабольшваецца.

З атрымліванае падпіскі ў нармальных варунках мы маглі-б нават да пэўнай меры пашырыць сваё выдавецтва, усё аднак дагэтуль зьядалі канфіскаты, суды за іх і штраф. Усіх канфіскатаў за 5 гадоў мелі мы 5, і кожная з іх каштавала каля 200 зл., пры тым за адну з іх заплацілі 150 злотаў штрафу.

Паміма гэтага ўдалося нам аднак выдаць кніжыцу п. н. „Палітычныя кірункі ў мінуўшчыне і сучаснасьці", а так-жа кішанковы календарык на 1931 год.

Выдаючы „Шл. Мол." спачатку выключна гражданкай, прышлося нам спаткацца з пытаньнем, як зрабіць беларускае друкаванае слова больш даступным для найшырэйшых колаў беларускае моладзі?

Ня хочучы вырашаць гэтага пытаньня ў сваім рэдакцыйным коле, мы зьвярнуліся з адкрытым запытаньнем — у форме анкеты — да нашых супрацоўнікаў і больш дзейных чытачоў, як яны прадстаўляюць сабе вырашэньне гэтае справы. Пасьля, на падставе адказаў на анкету, Рэд. Калегія. пастанавіла друкаваць „Шл. Мол." ад пачатку 1932 г. адначасна і гражданкаю і лацінкаю. Пры гэтым пастаноўлена ўжываць лацінку цалком зрэформаваную.

Так выглядае выдавецкая і рэдакцыйная праца Рэдак. Калегіі «Шляху Моладзі» за 5 гадоў. На гэтым аднак праца яе не агранічылася. Рэдакцыйная Калегія, разумеючы патрэбу шырэйшае і больш арганізованае працы сярод моладзі, у 1929 г. ўжо пастанавіла залажыць Таварыства Беларускае Моладзі „Будучыня“. Мэты гэтага Т-ва былі наступныя: а) самаадукацыя ў кірунку: народным, грамадзкім, культурным і прафэсыянальным; б) пашыраньне асьветы і навукі сярод малодшага пакаленьня; в) буджэньне зразуменьня да справы культуры і народнае творчасьці; г) заняцьця і пашыраньне спорту і фізычнага выхаваньня ва ўсялякай форме; д) арганізаваньне самапомачы і таварыскага жыцьця.

Апрацаваны статут Т-ва быў паданы на зацьверджаньне Віленскаму Ваяводзе, які зрабіць гэта адмовіўся.

Першая адмова Ваяводзтва зацьвердзіць статут Т-ва «Будучыня» апіралася на 6 арт. Распараджэньня Ген. Камісара Усходніх Зямель. Справа ў тым, што паводле гэтага распараджэньня да Т-ва ня могуць належыць непоўналетнія, г. зн. тая моладзь, якая ня мае 21 г.; а так-жа вучні ніжэйшых школ, што было спрэчна з §§ 10 і 11 статуту Т-ва «Будучыні», паводле якіх сябрамі з правам голасу, выбару і выбіральнасьці магла быць моладзь ад 16 гадоў, а бяз вышэй успомненых правоў — ад 14 гадоў.

Напатыкаючы на гэткія перашкоды статут Т-ва „Будучыні“, закладчыкі датасавалі яго да вышэйуспомненага распараджэньня Ген. Кам. Ус. З., якое чамусьці фактычна абавязвала толькі Таварыства Беларускай Моладзі, бо напр. да такога „Koła Młodzieży Wiejskiej“ можа належыць моладзь ад 16 гадоў, а нават і малодшая, як захоча гэтага ўрад „кола“, з тым, што ў Урад кола выбіраюцца поўналетнія, паводле статуту „Koła Młodzieży Wiejskiej“ зацьверджанага пастановай „Delegata Rządu w Wilnie dn. 16 lipca 1923 г.“ і ўпісанага у „Rejestr Stowyrzyszeń: Rejestr L. N. 19. Да „Stowarzyszenia Młodzieży Polskiej“, якім апякуецца віл. арцыб. Ялбжыкоўскі, паводле „Regulaminu Stowarzyszenia Młodzieży Polskiej“, можа належыць моладзь ад 14 гадоў і мець усякія правы, з тым, што ў урад „Стоважышэня“ можа быць выбраны той сябра, які кончыў 17 гадоў.

На ўсё гэта, у свой час, закладчыкамі Т-ва была зьвернута ўвага ваяводзкім уладам пасьля зложэньня да зацьверджаньня статуту Т-ва ўжо папраўленага. Незадоўга прышоў другі адказ, так-жа адмоўны. Гэтым разам ваяводзкія ўлады былі больш адкрытымі і адмову зацьверджаньня статуту Т-ва Бел. Моладзі „Будучыня“ апёрлі на 18 арт. Распараджэньня Ген. Камісара Ус. З., у якім сказана, што начальнік вокругу (ваявода — р э д.) можа статут зацьвердзіць, а можа і не зацьверджаць.

Пасьля гэтага была падана йшчэ заява ў Міністэрства Унутраных Спраў аб зацьверджаньні статуту. На заяву гэту атрыманы адказ начальніка бясьпечнасьці Віленскага Ваяводзтва з дн. 23.II.1932 № V 1433/30, што Мін. Унутр. Спраў пакінула нашу просьбу „bez uwzględnienia" не падаючы прычын, бо пастанова гэта падлягае зусім свабоднай ацэне ўлады і не вымагае ўмотываваньня („uzasadnienia").

Гэтак вось закончылася спроба стварэньня арганізацыі беларускае моладзі, а да гісторыі беларускага руху дайшоў яшчэ адзін вымоўны факт аб сапраўдных магчымасьцях культурна-асьветнай працы беларусоў у Польшчы.*)

---

Кажуць, што „Моладзь — гэта будучыня народу", „якая моладзь, такая і будучыня" і дзеля гэтага кожны народ стараецца ўзгадаваць сваю моладзь як найлепш. Мы бачым, як энэргічна і заўзята за ўзгадаваньне моладзі ўзяліся італьянскія фашысты, як шырока распаўсюджаны арганізацыі скаўтаў у Англіі, Вугрыі, Чэхаславаччыне, як у Саветах працуе камсамол, як у сучаснай Польшчы ўжо сярод вучняў пачатковых школ працуе над узгадаваньнем яе прыспасабленьне стралецкае, сярод-жа сярэдніх школ — „Straż Przednia" і «Harcerze», а „Strzelec", „Stowarzyszenie Młodzieży Polskiej", «Legjon Młodych», „Związek Młodzieży Wiejskiej „Wici", „Związek Młodzieży Wiejskiej „Siew", „Związek Młodzieży Wiejskiej i Ludowej „Młoda Wieś", „Krakusy", „TUR" і інш. сярод моладзі вясковай. Гэтыя польскія арганізацыі цэлай парай ідуць і налягаюць на нашыя вёскі і пад плашчом культуры ці хрысьціянства фактычна хочуць сполёнізаваць беларускую моладзь, а што за гэтым ідзе, кожны з нас ведае...

У нас беларусоў, хоць на моладзь таксама пакладаюць надзеі, то на ўзгадаваньне яе вельмі мала зварочваецца ўвагі. Дзеля таго і ня трэба дзівіцца, што моладзь наша ёсьць мляўкай у большасьці сваей нясьведамай і часта распоўзлай. Што ўся тая моладзь, каторая прыбывае з вёскі ў места здабываць асьвету, кандыдуючы на мягкія „пісарскія" фатэлі, у большасьці забывае аб сваім народзе, губіцца ў мяшчанскай гушчы, замест таго, каб трымаць кантакт з сваімі братамі і прыгатоўвацца да працы на карысьць тых сялянскіх масаў, з якіх выходзіць. — А трэба ведаць, што моладзь наша вясковая, хоць нясьведамая і цёмная, але не здэмаралізаваная, прыхільна горнецца да ўсяго свайго, калі яно будзе ёй належна прадстаўлена, што з ею можна працаваць і што з яе можна яшчэ што хочаш зрабіць. Сярод

---

*) Шырэй аб справе легалізацыі Т-ва „Будучыня" пісалі мы ў № 8-9 за 1930 г. з якога тут робім перадрук.

нашай моладзі крыецца многа талентаў, дык трэба іх выкопываць, няхай выходзяць у сьвет.

Праўда, да працы гэтае ўсе мы маем зьвязаныя рукі, але ўсё-ж-такі можна больш рабіць, як дагэтуль рабілася і трэба думаць, што беларуская моладзь ня дасца так лёгка зьнеахвоціцца стаўлянымі ёй труднасьцямі і справу свае арганізацыі пастараецца павясьці далей. Да гэтага мы маем ня толькі права, але і абавязак.

Трэба йшчэ сказаць, што наша сьведамая моладзь ня ёсьць так моцна разьбітая на партыі і няздольная да працы, бо вось напрыклад каля „Шл. Мол.", які што праўда не замыкаўся сьцісла ў рамкі якой колечы партыі, спатыкаем і моладзь з паглядамі народніцкімі, хадэцкімі (хрысьціянска-дэмократычнымі), соцыялістычнымі і найбольш радыкальнымі. Няраз бывае, што творы ці артыкулы хадэка друкуюцца побач з такімі-ж творамі соцыяліста, народніка, радыкала ці нац.-соцыяліста і г. д. Не аднаго можа гэта зьдзівіць. А выглядае гэта ўсё зусім проста — Рэдакцыйная Калегія „Шляху Моладзі" стала расшыраецца і ў свае рады прымае кожнага, не бяручы пад увагу асабістых ідэолёгічных паглядаў, хто толькі ідэова працуе ці хоча працаваць для дабра беларускага народу і ў аканчальнасьці імкнецца да незалежнасьці супольнае нашае Бацькаўшчыны—Беларусі.

Паміма такога, здаецца, усестароньняга дабору і вялікага ліку супрацоўнікаў „Шляху Моладзі", можна спаткаць, прынамсі некаторыя нумары яго, зьместам можа трохі слабаватыя, з тымі ці іншымі пахібамі. — Чаму гэта так? А таму, што гэта ў большасьці выпадкаў праца моладзі — матэр'ялу сырога, нявырабленага. Але трэба прызнаць, што робіць яна поступ, які можна заўважыць пры параўнаньні першых і апошніх нумароў „Шляху Моладзі". Выробленьня гэтага аднак яшчэ мала і дзеля таго ў 5-тыя ўгодкі сваей працы маем да ўсяго беларускага грамадзянства адну просьбу, — памагчы нам далей разьвівацца, хто чым можа: хто пяром і добрай увагай, хто грашом, хто ўзноў распаўсюджваньнем і пашыраньнем „Шляху Моладзі".

„Шлях Моладзі", як адзіная часопісь для беларускае моладзі, мусіць быць сапраўдным прамянём, які кідаў-бы сьвятло пад вясковыя сялянскія стрэхі, узгадоўваў моладзь на сапраўдных цьвёрдых, ідэовых грамадзян і барацьбітоў за агульна-народны дабрабыт і які давёў-бы моладзь да таго, каб яна сталася сапраўды сакалінай сям'ёй, якая-б падняла народ з нізін дзеля таго, каб заняў ён „свой пачэсны пасад між народамі".

# Kulturnyja jubilei 1934 h.

Sučasnaja kultura padniałasia na niabyvałuju vyšyniu. Ale da hetaha dajšła jana pastupova, vysiłkami i pracaju paasobnych ludziej, praz ichnyja muki i achviary na dabro ŭsiaho čałaviectva!

Dla ŭšanavańnia pamiaci tych ludziej, na znak udziačnaści im za ichnuju pracu, kulturnyja ludzi ŭspaminajuć ich hetak zvanymi j u b i l e j a m i.

Złažema-ž i my naležnuju ad nas dań udziačnaści tvarcom kulturnaha dabrabytu, paasobnymi prajavami katoraha my karystajemsia ŭ svaim štodziennym žyćci. Ichnyja imiony niepadzielna źviazanyja z tym ci inšym faktam kultury. Ušanujma i my choć uspaminam hetyja jubilei!

Dyk voś jany:

5 ŭhodki — 1929 hodu: vynachad Gothard'am u Złučanych Štatach Paŭn. Ameryki aeraplanu-rakiety i palot na im.

15 ŭhodki —1919 hodu: adkryćcio pieršaj stałaj pavietranaj pasažyrskaj komunikacyi pamiž Londanam i Paryžam. Pačatak avijacyi.

25 ŭhodki — 1909 hodu: adkryćcio Kuk'am i Piry'm paŭnočnaha hieohrafičnaha polusu ziamli; pieršy palot aeraplanam nad moram. Pieralot Bleryja cieraz praliŭ La-Manš.

30 ŭhodki — 1904 hodu: zasnavańnie Lisl'em pieršaj fabryki radyja ŭ Paryžy.

40 ŭhodki—1894 hodu: vynachad Muasanam vapienataha karbidu; adkryćcio Kitazato'm i Jersenam bacyłaŭ čumy; śmierć Helmholca — niamieckaha naturalista; śmierć Herca — niamieckaha fizyka.

50 ŭhodki — 1884 hodu: vynachad Renar'am i Krebs'am kiravalnaha aerastatu; vynachad Biotychieram substancyjnych farbaŭ dla bavoŭny; vynachad W'iel'jem biazdymnaha porachu; — adkryćcio Nikoler'am bacyłaŭ chvaroby tytanusa (słupniaka); adkryćcio Plo-Winsanam bacyłaŭ anhiny; adkryćcio Lefleram bacyłaŭ dyfterytu; śmierć katal. zakońnika Mendela Ryhora — niamieckaha vučonaha-naturalista; apublikavańnie Fep'jam kosmohoničnaj teoryi.

75 ŭhodki -- 1859 hodu: vynachad Kirchhofam i Bunzenam spektralnaha analizu; vynachad Roželo'm potašu z aviečaha potu; vynachad Kampanijaj Blek-Makep mašyny dla pryšyvańnia padešvaŭ; adkryćcio Darvinam teoryi pachodžańnia arhaničnych vidaŭ; skasavańnie najomnych vojskaŭ; śmierć Humboldta H. — zasnavalnika klimatolohii; śmierć Ryttera — zasnavalnika paraŭnaŭčaj hieohrafii; śmierć Hryma W. — niamieckaha filoloha; śmierć Makoleja — anhl. historyka.

100 ŭhodki — 1834 hodu: adkryćcio Mitčerlicham nitrobenzolu; adkryćcio Runge'm karbołavaj kisłaty ŭ dziohciu; śmierć anhl. pastara Maltusa — ekanamista, što dakazvaŭ

patrebu ahraničeńnia naradzinaŭ u ludzkich siemjach, bo bajaŭsia, što nia buduć mieć što ješci.

125 ŭhodki – 1809 hodu: vynachad Zemeryngam elektryčnaha telehrafu; vynachad Hizkoat'am varštatu dla vyrabu tulu; vynachad Anert'am sposabu kanservavańnia jeminnych praduktaŭ; adkryćcio Lamarkam zakonu biolohičnaj evolucyi; dakanańnie Mak-Dovenam ovaryotomii (vyniaćcie płocievych vorhanaŭ u žančyny;) śmierć Šlocera — niam. historyka.

150 ŭhodki — 1784 hodu: uviadzieńnie Wapi'am i Balmon'am paravoha ahravańnia; zasnavańnie Hajui'm u Paryžy pieršaj škoły dla ślapych; vynachad Bertole'm sposabu bialeńnia tkaniaŭ chloram; vynachad Achar'am platynavaha tygielu — čarki, u katoraj pry vysokaj temperatury rastaplivajucca ŭsiakija metali; śmierć Dydro — aŭtora pieršaj encyklopedyi; śmierć Bergmana — niamieckaha chemika.

175 ŭhodki — 1759 hodu: uviadzieńnie Frydrycham Wialikim konnaj artyleryi; vydany ŭ Paryžy pieršy handlovy žurnał.

250 ŭhodki — 1684 hodu: adkryćcio Lejbnicam i Njutonam dyfferencyjalnaha vyličeńnia; śmierć franc. poeta Kornela — zasnavalnika francuskaj klasyčnaj dramy.

300 ŭhodki — 1634 hodu: zasnavańnie śv. Vincentam z Paulo bractva siostraŭ miłaserdzia.

400 ŭhodki — 1534 hodu: turki pryviaźli kavu ŭ Eŭropu.

**U. Paŭ—ski.**

---

## Ludzi sami siabie hubiać!

Jak-ža časta paŭstajuć roznyja niedarečnaści, jak-ža časta možna spatkać ludziej zrujnavanych, zmarniełych, niaščasnych, kalekaŭ, dy zusim chvorych z pryčyny nadužyvańnia alkaholu. Kolki-ž roznych biedaŭ prynosie pjanstva hramadzianstvu. A adnak harełka jość, jaje lohka i aficyjalna produkujuć i navat z firmaj dziaržaŭnaha manapolu. Kupić i vypić možna dzie chočaš i kolki chočaš, aby tolki hrošy. Navat u časie kryzysu prapili ŭ 1932-33 h. ŭ sučasnaj Polščy 640 miljonaŭ złotaŭ na manapolcy, dy chiba mała mienš na samahoncy.

Jasna z hetaha vidać, što ludzi biespaščadna trujuć siabie i za atrutu hrošy płaciać, Vyhladaje heta na niejkuju niedarečnaść, ale tak u sapraŭdnaści jość.

Zdavałasia-b, što ŭ XX v., kali kultura najbolš raźvivajecca, ludzi pavinny byli-b šyroka z pjanstvam zmahacca, dy navat zabaranić produkcyju alkaholnych napitkaŭ. Adnak hetaha niama,—prociŭalkaholnaja akcyja vielmi słabaja. Čamu? —tamu, što na pjanstvie zarablaje manapol (kazna) i kapitalisty.

Bačačy heta, sapraŭdy treba ŭ historyju zapisvać tych ludziej i tyja biełaruskija vioski, jakija supolna pastanaŭlajuć nia pić „manapolki“, nia hnać „samahonki“, dy j nia kuryć, a zakładajuć čytalni, kooperatyvy i inšyja kulturna-hramadzkija i haspadarčyja ŭstanovy. *—p —k.*

# ЛЮТЫ.

2-гі месяц году. Мае 28 дзён. У рымлянаў—Februarius; франц. — Fevrier, англ. — February, ням.— Februar. У рэспубліканскім календары — pluviose — месяц дажджоў.

У славянаў — сьнежань; чэск. — унор, серб. - свечковый, рас.—февраль, стараруск**і**—февруарій, поль.—Luty, літоўскі. — vasaris, укр. лютий.

Беларускі назоў —люты—як месяца вострых і сільных маразоў, паходзіць ад слова люты—вельмі сярдзіты, злосны (мароз). Старабеларускі назоў — сьнежын.

Месяц люты, як і студзень, быў уведзены ў рымскі календар царом Нумаю Помпіліем. Гэты цар лютаму назначыў мець 28 дзён і паставіў яго за сьнежнем, перад студнем. У 153 г. да Н. Хр., пры пераносе пачатку году на 1 студня, люты быў пастаўлены за студнем, перад сакавіком. На гэтым месцы ў календары люты стаіць і цяпер.

Назоў Februarius'а люты атрымаў ад Нумы таму, што ў гэтым месяцы ў рымлянаў прыпадалі абрады ачышчэньня (februarae), каторыя сымболізавалі сапраўднае ачышчэньне прыроды ад зімы Абрады гэтыя прыпадалі ў часе сьвята люпэркаліяў (15 лютага). А сьвяты люпэркаліяў былі ўстаноўлены Ромулам і Рэмам у чэсьць бога фаўнуса—Люпэркуса, каторы апякаваўся палямі, лясамі, пашамі і скацінаю, баронячы яе ад ваўкоў, за што і атрымаў другое імя—Люпэркус. Фаўнус Люпэркус лічыўся богам сялян, апякуном земляробства і гадоўлі скаціны. Паміж іншым, сьвяты люпэркаліяў былі прысьвячаны і тэй ваўчыцы, каторая ў дні гэтых сьвятаў карміла Ромула і Рэма, калі іх, быўшых яшчэ дзяцьмі, рака Тыбр выкінула на бераг. Нума Помпілі, увёўшы новы месяц, аднак пасьвяціў яго Нэптуну, богу і валадару мора і ўсіх водаў, як пад'земных так і над'земных. Прычынаю гэтаму было тое, што ў м. лютым у Італіі пачыналася дажджлівае надвор'е (пагода).

Цікава адзначыць, што гэты месяц у старажытных грэкаў наз. Посэйдэонам, у чэсьць Посэйдона—бога мораў і водаў. Гэта ў іх быў адзіны месяц з божаскім назовам.

Пры рэформе календара Юліем Цэзарам у 46 г. да Н. Хр. месяц люты атрымаў 29 дзён у звычайным годзе і 30—у пераступным. Але, калі рымскі сэнат у 8 г да Н. Хр. перайменоўваў месяц Sextilis на Augustus у чэсьць Октавіана Аўгуста, дык адняў ад лютага адзін дзень і дадаў да Augustus'а. З гэтага часу люты мае 28 дзён у звычайным годзе і 29— пераступным.

Люты—апошні месяц астрономічнай зімы. У гэтым месяцы, калі ўжо адчувалася прыбліжэньне вясны, старажытныя славяне сьняткавалі досыць шумнае сьвята—провады зімы—Марэны. Рабілі чучала, выабражаючае зіму, выносілі

яго грамадою з песьнямі за вёску і палілі. У хрысьціянскую эпоху гэта сьвяткавалася на масьленіцу, якая найчасьцей прыпадала і цяпер прыпадае ў м-цы лютым.

Яшчэ і цяпер на Беларусі масьленіца праводзіцьа вельмі шумна, асабліва апошнія тры дні. Вечарамі нічога ня робяць, гасьцююць, а маладзёж паўтарае Каляднія гульні. У шмат якіх мясцовасьцях Беларусі існуе звычай на масьленіцу катацца (вазіняцца). Катаюцца на санках, а то проста на дошках, перавернутых зэдліках і на кускох лёду — ледзяшах. Катаюцца ня толькі маладыя, але і пажылыя людзі. Апошнія тры дні катаюцца на конях, часта з шоламамі і званкамі, пры чым пяюць адпаведныя песьні.

Нешта падобнае да беларускай масьленіцы у раманскіх народаў ёсьць карнавал—перажытак старарымскіх гульняў —**сатурналіяў**.

Хоць люты ў нас - месяц зімовы, але шмат лагаднейшы за студзень. У лютым адваліваюцца маразы і настае пара адлігаў, якія чарадуюцца з яснымі днямі і марознымі начамі. У лютым на Беларусі найменш выпадае атмосфэрных вопадзяў (сьнегу, дажджу).

За месяц люты дзень прыбывае на 1 гадз. 54 мінуты.

У народным календары Люты спытае, ці добра абуты. Люты вады падпусьціць, а сакавік падбярэ. Калі люты добра марозіць, селянін лучынку пале й дровы з лесу возіць.

1. На сьв. Ігната зіма багата, а Ігнат Грамніцам рад.

Які дзень першага лютага, такія й апошнія.

1. II. (старога стылю). На Трыфана зорна—вясна позная:

2. На грамніцы—палавіна зіміцы. Грамніца — хлебу палавіца, а корму траціна. Якая пагода на Грамніцы, такая й вясна. Як на Грамніцы адліга — з ураджаю будзе фіга. Калі на Грамніцы мароз, будзе хутка вясна, а калі не — будзе яшчэ сьнег і мароз. На Грамніцы пятух нап'ецца, на Дабравешчанье (Зьвеставаньне) — вол.

2.II (с. с.) Сьвятое Срэценьне вясну сустракае. На Срэценьне зіма з летам сустракаецца.

5.II Соль сьв. Агаты бароніць ад агня хаты.

7.II. Калі 7 лютага загрыміць гром, дык прападуць пожні.

11.II. (с. с.) Сьв. Ўлас, апякун скаціны.

Уласаў дзень—каровінае сьвята. Каля Ўласа сем маразоў—тры да Ўласа, адзін на Ўласа і тры пасьля Ўласа.

14.II. (с.с.) Фаціньня — заступніца ад трасцы.

24.II. На Мацея дарога пацее.

24.II. (с. с.) Усе з галавою, а Янка дык не. Янавай галавы баіцца зіма

— У які дзень на масьленіцы будзе яснае надвор'е, у той дзень тыдня вясною сеяць пшаніцу.

— У суботы перад масьленіцаю Дзяды—палудзень па радзіцелях.

У. Паў—скі.

# Літэратурны аддзел.

## ЗЬНЯМОГА.

Як ціха начная дарога,
Навокал соцюдзёная бель,
Усяго агарнула зьнямога
Так маніць спачынкам пасьцель.

Далёка я быў, — валандаўся,
Блудзіў у шуканьню дарог
Дзень сонечны ясным сьмяяўся
Дзень поўны надзеі, трывог.

Ды згаснула сонца...сьцямнел
Спакінуўшы чырвень зары.
Далей валакуся нясьмелы
Між сьнегу й спакою начы.

Так ціха... ў сэрцы стамлёным.
Сьцюдзёна... патухлі агні.
О, ночка! ў пасьцельку пухову,
Як сына мяне ты прыймі.

Хай сьціхне на міг хоць трывога
Дзіцяча-наіўнай душы!
Так ціха начная дарога
Пануе зьнямога ў цішы.

**М. Машара.**

## З І М А.

Усё зіма, ды зіма... Так сьцюдзёна... Мароз!
Белы сьнег пад нагамі скрыпіць,
Вецер той, што ня знае ні гора ні сьзёз
Злосна сьвішча, рагоча, гудзіць...
Панад шэрымі стрэхамі песьні пяе,
Прэцца ў шчыт, круціць сьнег куралём
Часам стукне ў вакно, крутане, дзьмухане,
Зробіць у коміне цэлы „садом“
І наводзіць тугу ён па згубленых днёх,
Па мінулай шчасьлівай вясьне!
І бядняк не адзін чуе боль у грудзёх
І пытае сябе: „жыць, ці не?“
Ў хатках шэрых, пануры у гэткі час,
У якіх голад спрадвеку гасьціць
Пачуць можна так часта, так часта нираз:
„О, ці трэба, ці варта так жыць?“
—„Мамка, холадна мне“!—„Татка, хлеба ці ёсьць?“
Вецер дзіка рагоча гудзіць...
Быццам з гора так сьмяецца на злосьць...
—„О, ці варта, ці трэба так жыць?“
О, мой брат! О, гаротны, бяздольны мой брат
Хоць зімовы нам віхор гудзіць,
Ня чурайся, бяздольны, ты шэранькіх хат!
Ня сумуй і ня плач — будзем жыць!
О,мой брат! Будзем жыць, для тэй цуднай вясны,
Што насустрач к нам хутка ідзе!..
Што прыйдзе да нас зьдзейсьніць нашы сны
І ўладаньне зімы прападзе.

Яна прыйдзе да нас з сваім мілым сьвятлом
У вянку з красак нашых палёў,
Яна прыйдзе да нас з хараством ды цяплом
І сагрэе нядолі сыноў.
Яна хутка ўжо йдзе, яна шчасьце нясе!
Хутка сковы зімовы парве,
Бо-ж ня вечна, мой брат, бо-ж ня дога ўжо, не,
На зямлі панаваць злой зіме!

**Міхась Явар.**

*
* *

На ўслончыку засела пад ваконцам
Дзяўчынка ветлая, краса убогіх хат,
І ручкі бледныя то ўперад, то назад
Снуюць і ўюць у ніткі валаконцы.
Схілілася галоўка спаленая сонцам
І прытупіўся змучаны пагляд,
А нітка цягнецца і цягнецца бясконца..
Ёй, трэ' яшчэ напрасьці гэтак шмат!..
Даўно ўжо 'поўнач і лучына дагарае...
Ўсё ўецца без канца роўненькай стрункай ніць...
Аб шчасьці сьніць дзяўчынка маладая
І ўсьцяж, усьцяж прадзе, верацяно бурчыць
І ціхі сон на вочы навявае...
Хутчэй, хутчэй, хутчэй-бы адпачыць!...
. . . . . . . . . . . . . **А. Бярозка.**

## У КУЗЬНІ.

Рукі магутна ўздымаюцца —
Молат б'е ўдарам глухім;
Іскры ў бакі разьлятаюцца,
Сыплюць дажджом залатым...

Нашыя грудзі змадзелыя
Цяжка й балюча сапуць, —
Але далоні спацелыя
Цьвёрдыя сталі куюць...

Весела з дружнай ахвотаю
Ў кузьні мы песьні пяём...
Проч, ты нядоля з бядотаю —
Новыя дні мы куём!

**Алесь Мілюць.**

## MAJA VIOSKA.

O rodnaja vioska maja!
Nijak ja, nijak nie zhadaju,
Čym serca majo ty ŭziała?
Čamu tak ciabie ja kachaju?

Pałacaŭ tut panskich niama, —
Pachiłyja, ŭbohija chaty,
Nichto nia žyvie tut darma
I ŭ kožnaha ruki šurpaty.

Na honiach ty ŭbohich staiš
U rodnaj ziamli biełaruskaj
Čamu-ž ty tak biedna daryš
Za pracu na nivačssy vuzkaj?

O, rodnaja vioska maja!
U češci tabie ja klanusia
Ty serca majo uziała,
Dušoj za ciabie ja malusia.

*Uł. Kazarovič.*

# Любі свой край!

Любі свой край, балоты, лес і горы і рэкі, што цякуць у мора, пясок, каменьні-пустары, і лесу нашага зьвяры, і замкаў могільнік стары.

Любі балота не таму, што ўлетку можна там утапіцца, што на'т там родзіць касавіца, — але таму, што гэта нашае балота. Бо гразь там сталася таму, што сьлёзы зьдзеку там сабраліcь. То сьлёзы прадзедаў, дзядоў, бацькоў і сёстраў, і братоў і нас, што ад вякоў з вачэй ліліся. І ўжо насыцілась зямля і больш ў нутро прыняць ня хоча, таму і гразьне люд рабочы.

А рэкі, раўчукі, равы, — усе з поту нашага яны.

А іржа ў гразі — то не з жалеза, але з жыл, то кроў людзей; сялян дружын. То кроў людзкая, нам родная, што й нашым целам абягае.

А над балотам ваганькі, то не для зводжаньня людзей, ня газ гарушчы з гніцьця, — то дух дзяцей, што зьдзек пазбавіў іх жыцьця.

А наш пясок, то не таму, каб ральля наша не радзіла, але таму, каб наша родная зямля к сабе чужынцаў не маніла.

А мох на іх — то мы самі, што ўмеем жыць на'т там, дзе гінуць насланыя паны.

Курганы й замчышчы ў нас, — не для вучоных, каб сабе галавы ламалі, а для нас, каб мы былое ўспаміналі.

А лес наш — нашы рэнэгаты (вырадкі). І многа іх; ня дзіва, што мы бяздольныя такія. Глядзеце вось, як вораг выцягае лапы па лес, таму мароз у нашу хату ўлез.

А мы любім усё сваё, як бы сябе самых. — Любоў дае жыцьцё. Таму любема родны край, а праз цярпеньне — шлях у рай.

*Х. Ігрык.*

---

**Bob Smajl.**

# KRYTYKI.

(*Abrazok z žyćcia vučniоŭskaje moładzi z časoŭ „Hramady"*).

Praźviniеŭ zvanok.

U klasie pačało ścichać. Sabranyja vučni zajmali miascy na łaŭkach. Vočy ŭsich źviarnulisia na Tarabančyka, vučnia IV-je klasy.

Tarabančyk — čornamazy chłapiec, u rahovych akularach, z pavažnaj minaj ustaŭ z-za stała i jak ścichła — pačaŭ:

— Tavaryšy! Siańnia sabralisia my tut, kab naładzić krytyku tvoraŭ Pst. Prynkievіča: „Pomsta za carkvoj" i „U viaź-

nicy“. Ja, jak staršynia Litsekcyi pry našym hurtku, liču hety schod adčynienym i ... i ...

Staršynia schodu zaiknuŭsia. Hlanuŭ na stalavańnie. Pa im poŭz pavoli pavuk. Na tvary Tarabančyka adbiłasia strašennaja nuda.

— i ... — ciahnuŭ jon dalej, hłytajučy ślinu — tak skazać, prystupim ciapier da krytyki. Hołas maje tavaryš Sienčyk.

— Vybačajcie, kaleha, — adazvaŭsia adzin treciaklasist u doŭhich portkach — ja-ž nia čytaŭ hetych tvoraŭ. Moža-b pierš raskazali choć źmiest ich.

— Nia tjeba! — zapiščeła dzieŭčynka z kaštanavatymi vałasami — skajej pojdziem damoŭ. Ja nia maju času. Mušu pisać jefejat na djuhuju subotu ab udziele žančyn u budaŭnictvie S.S.R.R.

— Jak nia treba?! Što ty razumieješ, tavaryška Nadzia!? Chaj chto-niebudź raskaža, chto čytaŭ.

Padniaŭsia šum. Staršynia stukaŭ ałavikom pa stale.

— Tavaryšy — pačaŭ jon — chto čytaŭ hetu knižku, ruki ŭharu?!

Padnialisia dźvie ruki.

— Nu, heta, tak skazać, niemahčymaja reč. U nas, baču, niama ani dyscypliny, ani salidarnaści klasavaj. Heta-ž visieła abviestka try tydni na kalidory. Kožny za hety čas moh pračytać.

— Niama dzie dastać!.. Mania trymała ekzemplar biblijatečny try tydni i viarnuła nie pračytany!.. A nu jaje k čortu!.. Dalej jedź!.. Padavaj rezalucyju!.. — šumieła dziciačymi hałasami zala.

— Supakojciesia! — ciahnuŭ staršynia. Sieńčyk, ty mieŭsia referavać hetu knihu — raskažy im źmiest jaje.

Da stała padyjšoŭ vučań treciaj klasy — Sieńčyk. Drobny vaspavaty tvar. Bliskučyja vočy. Mlaŭkaść ruchaŭ. U rukach arkuš papiery zapisany drobnym piśmom. Zatrymaŭsia pierad stałom i pačaŭ:

— Tavaryšy! Padchodziačy k našamu pytańniu z punktu hledžańnia dyjalektyčnaha materyjalizmu mušu skazać, što hety tvor napisany... napisany... — referent adnym vokam zahlanuŭ u rukapis — napisany... buržuazyjnym śvietahladam... Aŭtor jaho Pst. Prynkievič. jak vidać, syn papa, ab čym havoryć navat nazoŭ: „Pomsta za carkvoj“, nie adbiŭ u im marksyckaha hledžańnia na literaturu. Baraćba klasaŭ za svajo isnavańnie z adviečnym voraham kapitałam... jak vidać, što... aŭtoru čužaja. Adbivańnie duchoŭnaha žyćcia, žyćcia carkoŭnaha nie pavinna mieć miesca ŭ literatury... Z Boham my razyšlisia... Z im nam nie padarozie... A tut bačym...

— Dobra, dobra havoryć! — pačulisia hałasy.

— Dy ty-ž, Sieńčyk, mieŭsia raskazać źmiest hetych tvoraŭ — adazvaŭsia ŭłaśnik doŭhich portak.

— Čakajcie, tavaryšy. Da ŭsiaho dojdziem pa paradku— pradaŭžaŭ referent. — Hałoŭnymi asobami ŭ hetych tvorach jość dva chłapcy: Pelka i Melka. Heta dva vialikija vorahi internacyjanalnaha proletaryjatu. Zaražanyja feodalnymi idejami kułackaha sialanstva... jany... jany ŭchilŝčyki, ahidnyja nacyjanalisty... A ciapier, što da źmiestu, dyk... Sieńčyk krychu pačyrvanieŭ — dyk... Mania nie dała mnie knižki i ja nia moh pračytać.

— Što — kryknuŭ staršynia — Jak-ža ty nia čytaŭ, kali tabie było navat daručana napisać rezalucyju!?

— Rezalucyja jość — adkazaŭ Sieńčyk.

— Dyk jak-ža ty, Kolka, pisaŭ rezalucyju nia čytajučy tvoru?

— A vam što za dzieła — skryviŭsia Sieńčyk — aby była napisana. Mnie napisaŭ brat, što ŭ techničnuju na apošni kurs chodzić. Jon užo dvoje sutak u centralcy siadzieŭ? Aśviadomleny! A ty čytaŭ?

— Kali ja nia čytaŭ, dyk i nie kažu ničoha. Zatoje čytaŭ Hryška i Vaśka.

— Hjiśka, vykažysia po etomu vopjosu — zapiščeła tavaryška.

— Ja, kalehi — skazaŭ ustaŭšy Hryška — čytać čytaŭ, ale letaś; ciapier ničoha nia pomniu.

— Nu, a Vaśka? — źviarnuŭsia staršynia da toŭstaha vučnia.

— A jak-ža, čytaŭ. Jasna što čytaŭ, choć i ničoha nie zrazumieŭ. A jaki zahałovak hetaj knižki?...

— Durak — syknuŭ staršynia.

— Sam ty durań i ałavik u mianie ŭkraŭ — adhryznuŭsia Vaśka.

— Čakaj ty, miaščanskaje nasieńnie, paličymsia z taboj, jak skončycca schod — sa złościu kipieŭ staršynia. — A ciapier musimo pryniać rezalucyju ŭ abhavoranaj nami spravie. Tavaryš Sieńčyk, pračytajcie.

— Čytajcie jezajucyju i pojdziem damoŭ; mnie tjeba pisać jefejat.

Sieńčyk dastaŭ rukapis i pačaŭ čytać:

„R e z a l u c y j a *)
krytyki tvoraŭ Pst. Prynkieviča: „Pomsta za carkvoj“ i „U viaźnicy“.

My, vučni, prasłuchaŭšy krytyku tvoraŭ, śćviardžajem, što:

1) Hetyja tvory susim nie adbivajuć ni idejaŭ sučasnaj vioski, ni jaje žyćcia.

---

*) aŭtentyčnaja!

2) Usie asoby, jakija vystupajuć u hetych tvorach, nie charakteryzujuć sapraŭdnych dziejačoŭ za vyzvaleńnie biełaruskaha narodu.

3) Akcyja, jakaja adbyvajecca ŭ tvorach — nienaturalnaja i nie admaloŭvaje sapraŭdnaści.

4) Biełaruski pracoŭny narod moža vyzvalicca nia šlacham relihijnaha zmahańnia i nia šlacham šovinistyčna-nacyjanalnym, a šlacham supolnaj baraćby pracoŭnych.

5) Dziela ŭsiaho hetaha pryznajom, što tvory Prynkieviča škodnyja dla pracoŭnych masaŭ".

Sienčyk skončyŭ.

— Chto vyskažycca jašče ŭ spravie hetaj rezalucyi? — pytaŭ staršynia.

Padniałasia adna ruka.

— Kali łaska.

Ustaŭ toŭsty vučań druhoj klasy:

— Prapanuju ŭstavić jašče adzin punkt. A imienna: punkt šosty — „proletary ŭsich krajoŭ, złučajciesia!". A ahułam rezalucyja napisana dobra. Tolki adno słova mnie nie padabajecca: heta „akcyja"... Pašto nam heta „akcyja", jakaja tak prypaminaje „reakcyju". Prapanuju vykinuć heta praciŭnaje proletaryjatu vyražeńnie.

— Vykinuć! vykinuć! — pačulisia hałasy.

— Dyk jak, tavaryšy, adnosna papravak? Pryjmajecie?

— Pryjmajem! A jak-ža!

— Nu dyk ciapier padpisvajciesia!

Kožny padychodziŭ da stała i z pavažnaj minaj raśpisvaŭsia pad rezalucyjaj. Tolki ŭłaśnik doŭhich portak nie chacieŭ rabić hetaha.

— Našto hetaja kamedyja — kazaŭ. Ci-ž vy, abo ja viedaju, što heta takoje krytyka.

Tut padniałasia całaja bura. Zaciskalisia kułaki. Złosny šopat.

— Iš ty, uchilščyk!.. Buržuj!.. Stłajkbłechał!.. Von z im, z fašystam—pradažnikam!..*) Dałoŭ kantaŭski śvietapahlad!.. U mordu jaho!..

Ułaśnik doŭhich portak ułažyŭ palec u zuby. Pierahlanuŭsia apatyčna z kalehami. Padyjšoŭ da stała.

— Dajcie i ja padpišu. Ale tolki ŭ imia śviatoj salidarnaści...

*) Słova „nacdem" tady jašče nia znali.

Памылка: У нумары 1 (61) на бач. 9 у вершы „Зімовая ноч" у апошнім радку надрукавана „пад сьнегам" а трэба „над сьнегам".




## *DA MOŁADZI.*

*Moładź! ščyra, nie lanisia —*
*Ćmu navukaj raśsiavaj,*
*Movy rodnaj nia stydzisia,*
*Tolki joju ty śpiavaj.*

*Apiavaj ḫarotnu dolu,*
*I niaščasnaje žyćcio,*
*I zakovanuju volu,*
*Ludu biednaḫa svajḫo.*

*Apiavaj svaje ty vioski*
*Pad sałomienaj stracḫoj,*
*I piaščanyja pałoski,*
*Zaḫaranyja sacḫoj.*

*Apiavaj ty niepracḫodny*
*Puščy cicḫija, lasy,*
*Stužki-rečki siniavodny —*
*Poŭny cudnaje krasy.*

*Miły kut, dzie my zrabili*
*Svoj niaśmieły pieršy šaḫ,*
*Dzie nam pieršy zazvanili*
*Słovy matčyny ŭ vušacḫ:*

*Imi treba nam ḫardzicca,*
*Imi treba daražyć,*
*Imi treba i malicca,*
*Imi treba ḫavaryć!*

*A. ŽUK.*

---

## CI TREBA MYCCA?

Matki časta majuć vielmi mnoha biady z myćciom dziaciej, jakija pieravažna bajacca vady i za ništo nia chočuć z joj stykacca. Zdarajecca heta, na žal, nia tolki z dziaćmi, ale časta i z starejšaj moładździu, užo z kandydatami ŭ „kavalery“, „dzieŭki“, a navat i z darosłymi ludźmi, što niaraz patrapiać cełу tydzień chadzić nia myjučysia.

Kali voś ab hetym havaryć, to treba viedać, što myćcio samych siabie da nas pryšło nia tak daŭno, bo jakich hadoŭ tamu 300. Raniej, kali ludzi byli niakulturnymi, nia mylisia, chadzili i žyli ŭ brudach, a z hetaj pryčyny raspaŭsiudžvalisia roznyja zaraznyja chvaroby, jak vospa, džuma, z jakich vymirali cełyja asady, vioski i miesty. Siarod dziaciej byŭ vielmi vysoki pracent śmiarotnaści. Tak naprykład z 10 asob, vieku 9—10 hadovaha dažyvała ŭsiaho 5.

Siahońnia kulturnyja ludzi z brudam zmahajucca, a dziela hetaha chvaroby zaraznyja nia tak raspaŭsiudžvajucca i i śmiarotnaść źmienšyłasia.

Z hetaha bačym, što myćcio samych siabie, svajho cieła i ahułam čystata adziežy, pamieškańnia, vielmi karysny dla našaha zdaroŭja i jość heta jak-by aznakaj kulturnaści. — Dyk nie škadujma času, vady i myła, myjmasia rana i viečar i trymajma ŭsio ŭ čystacie. *J—k.*

# Вацюковы суботнікі.

(Гл. „Шл. Мол.“ № 1 (61).

— Ці глыбака пад зямлёй знаходзіцца соль? — цікавілася Марылька.

— І ці цяжка яе капаць — дадаў Кастусь.

— Капальні солі ў Вялічцы, напрыклад, маюць каля 300 мэтраў глыбіні і падзелены на сем паверхаў. З кожнага паверху разыходзяцца шырокія і высокія калідоры, зразумела, цёмныя, як і ўся капальня. Ад часу да часу мігацяць у калідорах аганькі і чуваць стук ламоў, якімі работнікі адбіваюць кускі солі. Выламаную соль работнікі звозяць малымі вагончыкамі ў адно мейсца, дзе сходзяцца некалькі калідораў. Там ўсе вагончыкі злучаюць разам ў адзін цягнік, запрагаюць коні...

— Коні? Як-жа-ж яны бедныя там жывуць ў цемнаце? — зьдзівілася Анелька.

— Што-ж, прывыкаюць; маюць там свае стайні і жывуць у капальнях цэлымі гадамі... І вось коні звозяць такія цягнікі з цэлага паверху ў адно мейсца, скуль ўжо машынамі праз аграмадны праход выдабываюць соль на паверхню зямлі.

— Ці гэтая соль з Вялічкі зусім чыстая? — спытаўся Кастусь.

— Не, соль ў Вялічцы ёсьць найбольш чорнага або зялёнага колеру; толькі ў дзьвюх г. зв. крыштальных каморах соль зусім чыстая і празрыстая.

— Страшная праца ў такіх капальнях — адазваўся Паўлюк, у цемнаце... глыбака пад зямлёй... брр... падумаць жудасна...

— Так, цяжкая праца, тым больш, што работнікам ў капальні гразяць розныя небясьпекі. Бывае, напрыклад, што заваліцца сьцяна ў калідоры і засыпле працуючых, або праб'ецца вада і залье іх. Сталае перабываньне ў цемнаце, цяжкая праца і небясьпекі прыгнятаюць работнікаў і дзеля гэтага яны паважныя, сумныя, а таксама сумным і паважным характарам адзначаюцца іх песьні і казкі. — Але, як расказываў наш вучыцель, які быў у Вялічцы ў „гасьцях“ — на падарожніках капальні солі робяць аграмаднае ўражаньне. Здаецца, што былі ў нейкім зачараваным краі. У Вялічцы, напрыклад, ёсьць каваная ў чыстай солі капліца сьв. Антона, у якой некалькі разоў у год адпраўляюцца набажэнствы; далей ёсьць салёнае возера, па якім плаваюць ў лодках работнікі, палючы падчас сваіх сьвятаў штучныя вагні; ёсьць таксама балёвая саля, дзе работнікі капальні ладзяць балі...

— Эх, каб гэта калі-небудзь пабачыць гэтакія цуды!— ўздыхнуў Кастусь.

— Чаму не, — пацьвердзіў Яська — і я-бы хацеў паехаць у капальні солі, цікава.

— Дык што-ж, едзь, парадзіў Паўлюк, стань за работніка ў капальнях, нагледзішся ўсяго да сыта.

— Ну не, за гэта дзякуй! абурыўся Яська. Ня бачыць сонца, неба, ня дыхаць чыстым паветрам нашых палёў, адыйсьці ад сваей зямлі! Не, да гэтага найбольшая цікавасьць мяне ня прымусіць.

— Ды ніхто не прымушаў-бы астацца там на ўсё жыцьцё—паехаў, пабыў і назад. . супакоіваў Кастусь —І...

— Кіньце ўжо, перабіла Анелька. Далёка зьбіраюцца, а грошы на дарогу ня маюць. Няма, значыцца, аб чым гаварыць. Скажы нам лепш, Вацюк, як гэта робяць, што соль у прадажы белая, як сьнег і дробненькая? —

— Нячыстую соль распушчаюць ў вадзе, пасьля ваду выпарываюць, соль асядае большымі ці меншымі кусочкамі гэтак званымі крышталамі, паўтараюць такую ачыстку да тае пары, пакуль не атрымаюць солі зусім чыстай. Каб атрымаць соль дробную пры выпарываньні—яе бязупынна мяшаюць, каб ня даць ей асядаць буйнымі крышталамі.

— Я чытала, пачала Марыля, што соль таксама выдабываюць з вады.

— Праўда, пацьвердзіў Вацюк. Напрыклад у моры вада моцна салёная. Людзі гэтым карыстаюцца і выдабываюць з вады соль дзеля свайго ўжытку. У паўднёвых краёх, на берагох Атлянтыцкага акіяну і Чорнага мора, на нізкіх берагох капаюць такія няглыбокія быццам саджаўкі, у якія напускаюць падчас летняй марской вады, дзе яна пад дзеяньнем сонца выпарываецца,а соль крышталізуецца. Соль гэту выбіраюць, перасушываюць на сонцы і яна ўжо гатовая да ўжытку. — А некаторыя салёныя возяры, як напр. у Расеі каля ракі Волгі і Дону, высыхаючы летам, астаўляюць на сваім дне гатовую соль. — Нядзіва, што людзі гэтак стараюцца ўсялякімі спосабамі здабыць сабе запасы солі, бо без яе трудна абыйсьціся. Нясоленая страва нікому не смакуе, а і перахаваць некаторыя прадукты, як мяса, рыбу, масла бяз солі ня было-б ніякай магчысьці.

У гэтую хвіліну гадзіньнік прабіў дзесяць. Вацюковыя госьці схапіліся перапалоханыя.

— Ох, якжа-ж мы засядзеліся! Бывай! бывай зрароў, Вацюк! Дзякуем! Дзякуем! пачуліся галасы.

Бывайце здаровыя!

Да пабачэньня ў другую суботу!

(д. б.) **Л. Войцікава.**

# Лісты

## ПАШЫРАЙМА РОДНУЮ КНІЖКЎ І ГАЗЭТУ!

Зэльва, Ваўкавыскага пав. Аб залажэньні свае беларускае арганізацыі ў нас тымчасам ня прыходзіцца гаварыць, з прычыны цяжкіх абставінаў. Каб-жа не аставацца ад другіх куткоў Беларусі, дзе праца адраджэнская ідзе шпарчэй, моладзь пастанавіла як найшырэй дзяліцца выпісванымі беларускімі часопісямі і кніжкамі, якія ўсе ахвотна чытаюць, а прачытаўшы і да розуму даходзяць. Гэты спосаб пашыраньня сьведамасьці і асьветы аказаўся вельмі добрым, дык заклікаем моладзь іншых „закінутых" ваколіц рабіць таксама, гэта знача выпісваць беларускія кніжкі і газэты, чытаць іх і як найдалей пашыраць! *Падвэльвянскі.*

## ПРАВАСЛАЎНЫЯ ДУХАЎНІКІ ПРЫ ПОЛЁНІЗАТАРСТВЕ.

Дзятлава, Наваградзкага пав. Арганізацыяў беларускіх у нас няма, моладзь пераважна нясьведамая; гэта выкарыстываюць польскія ксяндзы і вучыцялі, якія закладаюць свае арганізацыі, як „Стоважышэне Млодзежы Польскей", „Кола Млодзежы Вейскей", „Стшэльца" і інш., уцягваюць у іх моладзь і там, пад прыкрыўкай хрысьціянства і культуры, полёнізуюць нашу моладзь. Бачачы гэта і хочучы здабыць пахвалу за польскую працу, настаяцель Накрыжскага прыходу а. Б. так-жа выхваляе польскія арганізацыі і прышоўшага да яго маладога селяніна з вёскі Т. нагаварваў залажыць польскае „кола".

На проціўвагу дзейнасьці нашых „сьветачоў", мясцовая моладзь павінна залажыць сваю беларускую культурна-асьветную арганізацыю, напр. Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры і супольна павясьці барацьбу з цемнатой, помнячы, што сваімі сіламі і пры помачы свае арганізацыі сапраўды зможам палепшыць свой быт. *Сьлёзнавокі.*

## ПРОЧ З РАЗБОЕМ!

Забор'е, Браслаўскага пав. Ня так даўно ў нас здарыўся жудасны выпадак. На вечарынцы, дзе сабралася многа „добра падхмеленай" моладзі, пачалася бойка, у выніку якой адзін малады хлапец аказаўся трупам.

Сумнае гэта здарэньне ясна гавора, на колькі культурная ў нас моладзь і да чаго даводзіць п'янства. З дзікім звычаем боек пара ўжо даўно кончыць, няхай не акрывае ён ганьбай нашай старонкі! —Усе непаразуменьні трэба вырашаць ня кіём, не нажом, а рассудкам і развагай! А гэтага можа навучыць толькі свая родная кніжка, газэта ці арганізацыя. *І—т П—н.*

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**Вечар прысьвячаны 5-тым угодкам „Шляху Моладзі“,** як мы ўжо пісалі, адбудзецца 25.II.34 у залі Бел. Інстытуту Г. і К. (Вільня, Завальная 1—1). Праграма вечару наступная: 1. Справаздаўчы рэфэрат з дзейнасьці Рэдакцыйнае Калегіі „Шляху Моладзі“ за 5 гадоў, які бадай што поўнасьцю друкуем у гэтым нумары, — прачытае Я. Найдзюк; 2. Канцэрт Беларускае Народнае Песьні ў выкананьні Беларускага Хору пад кіраўніцтвам грам. Альбіна Стэповіча і 3. Солё на скрыпцы выканае студ. Махонька пры акампаніямэнце грам. рэд. Я. Пазьняка Пачатак вечару а гадз. 19. Уваход бясплатны.

**Саюз Беларускіх Коопэратываў.** Рэдакцыя часопісі „Самапомач“ прыступіла да арганізацыі Саюзу Беларускіх Коопэратываў, да якога бязумоўна павінны запісацца ўсе беларускія коопэратывы на вёсцы. Пачынальнікам гэтае так важнае і патрэбнае арганізацыі жадаем удачы!

**З дзейнасьці Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры Віленскім Унівэрсытэце.** — Дня 4 лютага с. г. Т-ва Прыяц. Беларусаведы на надзвычайным агульным сваім сходзе вынесла пратэст супроць ведамае „рэформы“ беларускага правапісу ў Б.С.С.Р. — 11.II.34 у гэтым-жа Т-ве прачытаў лекцыю на т. «У 50-тыя ўгодкі выхаду „Гоману“ грам. А. Луцкевіч. —18.II.34 прачытаў там-жа лекцыю грам. М. Пецюкевіч на тэму: „Беларуская Этнографія ў Б.С.С.Р. за 15 гадоў“.

**Вечар бальлядаў.** 17.II.34 г. у Бел. Гімназіі ў Вільні быў наладжаны вучнёўскім самаўрадам гэтае гімназіі вечар беларускіх і польскіх бальлядаў, у выкананьні якіх многа было пахібаў.

**Сьвятліца для бел. вучнёўскай моладзі Віл. Бел. Гімназіі.** Нядаўна ў Віл. Бел. Гімназіі заснована сьвятліца, у якой моладзь мае доступ да газэт. Цікава, што ў сьвятліцы гэтай бадай выключна газэты польскія; з беларускіх-жа адзін полёнофільскі „Родны Край“. Ай, выхаваўцы, выхаваўцы! І ня стыдна-ж называцца Вам беларусамі?

**З выдавецкае нівы.** На пачатку месяца лютага с. г. пачала выходзіць беларуская нацыяналістычна-полёнофільская газэта „Беларусь Працы,“ якой рэдактарам ёсьць студ. С. Сарока. Часопісь гэта ў № 2 памі-ж іншым вітае „Шлях Моладзі“ з 5 тымі ўгодкамі, за што мы дзякуем. На пытаньні нашых чытачоў і супрацоўнікаў адказваем, што ніякага супрацоўніцтва з гэтай часопісяй не вядзём.

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк** **Выдавец Янка Баргдановіч**

## Usiačyna.

**Hoład.** Z pryčyny ahulnaha abiadnieńnia i nieŭradžaju ŭ Vilenščynie, asabliva ŭ Brasłaŭskim i Dziśnienskim pavietach panuje hoład, dziakujučy jakomu pašyrajucca roznyja chvaroby, a asabliva tyfus. Viadziecca ŭžo dapamahovaja akcyja, da jakoj zaklikajem i my ŭsich pamahać haładujučym bratom, chto čym moža.

**Revolucyja.** Niadaŭna ŭ Aŭstryi tamašnija socyjał-demokraty abjavili ŭradu vajnu, bo jon byccam ahraničvaje pravy nasielnictva. U zmahańniach byli ŭžyvany kulamioty i harmaty, pryčym zhinuła 1600 asob i niekalka tysiač raniena. Pieramoh urad. — U Francyi tak-ža adbyvalisia vialikija zabureńni, padčas jakich zhinuła tak-ža mnoha ludziej.

**Paloty ŭ stratosferu.** 30 studnia s. h. 3 savieckija latuny na specyjalna zbudavanym da palotaŭ u stratosferu balonie „Osoavijachim", padnialisia na vyšyniu 22,000 metraŭ, paśla pačali spuskacca, adnak u hetym časie sapsułasia štoś u mechanizmie i balon upaŭ, raźbivajučysia na kavałki, pry tym zhinuli 3 latuny. — Katastrofa nia ŭstrymlivaje adnak savieckich latunoŭ da novych palotaŭ i jany ŭžo pryhataŭlajuć novy balon, na jakim dumajuć u m-cy sakaviku s. h. padniacca na vyšyniu 30,000 metr. — U Amerycy pryhataŭlajecca da palotu ŭ stratosferu kapitan Albert Stephens, jaki maje namier padniaca na vyšyniu 25,000 metr.

**Vaza i błycha.** U Ehipcie znojdziena niadaŭna staradaŭniuju vazu z rycynovym alejem, u jakim była dobra zakanservavanaja błycha. Znachody hetyja majuć 3000 hadoŭ.

**Strašnuju torpedu marskuju** ŭ formie padvodnaj łodki vydumali anhlijcy. Torpedu hetu možna budzie kiravać pry pomačy radyjovych falaŭ, siła jaje na hetulki vialikaja, što moža źniščyć najvialikšyja marskija pancyrniki. Kab pryčyniłasia jana da supakoju na śviecie nia prychodzicca chiba spadziavacca.

**Vialiki pradpatapovy źvier** pajaviŭsia byccam u Anhlii ŭ voziery Ness. Ab isnavańni jaho raskazvajuć miascovyja žychary, jakim jon mnoha nahaniaje strachu. Dziela pabačańnia, sfatahrafavańnia ci sfilmavańnia hetaha źviara źjaŭlajecca z usich staron da voziera Ness mnoha cikavych ludziej. Pakulšto adnak nikomu z ich zadavolić svaje cikavaści nie ŭdałosia. Miascovyja hateli i ahułam žychary na hetym dobra zarablajuć.

**Za 300 hadoŭ nia budzie zdarovych na rozumie ludziej** — tak ćvierdzić adzin z anhlijskich statystykaŭ, apirajučysia na cyfrach z minułych hadoŭ, pavodle jakich u 1859 h. byŭ 1 varjat na 535 čałaviek, u 1897 — 1 na 312, a ŭ 1926 h. 1 na 150, a kali tak patryvaje dalej, to ŭ 1977 h. budziem mieć 1 varjata na 100 čałaviek, a ŭ 2139 h. buduć usie varjatami. Ale naša pakaleńnie hetaha nie dačakajecca.

**Cikavaja hara.** U Amerycy, u Štacie Arizona jość hara, jakaja źjaŭlajecca vialikim meteoram, abo jnakš kažučy, častkaju jakojś planety, ci źviazdy, upaŭšaj na ziamlu z nieba i zaryŭšajsia čaśtkova ŭ jaje. Doślady kala hetaje hary vykazali, što jana maje mnoha žaleza, platyny i navat drobnyja brylanty.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

Х. Ігрыку. За прысланае дзякуем, як бачыце карыстаем і просім пісаць часьцей.

Я. Вількоўшчыку. За прывітаньне шчырая падзяка. Перапрашаем, што з прычыны нястачы месца ў гэтым нумары не змаглі мы нічога даць з Вашых твораў.

М. Машары. За прывітаньне шчырая падзяка. Нова-прысланыя вершы ў гэты нумар спазьніліся, пойдуць у наступных нумарох.

Гурткoм Бел. Інстытуту Г. і К. у в. Шутавічы і Расла, а так-жа грам. А Жабінскаму за прывітаньні і пажаданьні шчырая падзяка.

Гуртку Бел. Інстытуту Г. і К. у Будславе за прывітаньне шчырая падзяка, „Шлях Моладзі" высылаем акуратна.

Аляксею А—чыку. Просьбу споўнілі, „Шл. М." будзем высылаць на Ваш адрэс, календары ўсе ўжо распраданы.

Ігнату Пу—ну. Карэспандэнцыю перадалі, кніжак, якіх Вы просіце, выслаць ня можам, бо яны ўсе ўжо разышліся.

А. Жуку. З прысланых вершаў друкуем адзін з папраўкамі, на якія просім зьвярнуць увагу. З рэшты вершаў няведама:ці што ўдасца зрабіць. Радзім больш працаваць над сабой і над творамі, а поступ будзе напэўна вялікі. „Зубр", „Вясна" і „Лета" яшчэ ня друкаваны.

А. Росьціку, П. Лішняму, Н. Жальбе і Р. Сьлезьніку адказы з прычыны нястачы месца, змушаны адлажыць да наступнага нумару.

## КУТОК РАЗРЫВАК.

**Круцігалоўка № 2** — *злаж. Н. Р.*



У краткі круцігалоўкі № 2 ўпісаць словы, значэньне якіх падаём ніжэй, першыя-ж літары гэтых слоў, чытаючы з гары ў ніз, дадуць разьвязку.

Значэньне слоў: 1) возера на Беларусі, 2) імя мужчынскае, 3) інакш дом, 4) беларускае мястэчка, 5) літэра, 6) часьць цела, 7) літэра, 8) драпежны зьвер, 9) імя жаноцкае, 10) часьць адзежы, 11) прылада да асьвятленьня, 12) драпежная птушка, 13) пахаронны абрад, 14) назоў беларускай гумарыстычнай часопісі, цяпер ня існуючай, 15) клічнік, 16) старое аружжа, 17) імя мужчынскае, 18) дрэва, 19) назоў беларускага лемантара і 20) птушка.

**Круцігалоўка № 3** — *злаж. М. Р.*



1. Інакш трывалкасьць.
2. Жабруючая кабета.
3. Сялянская паласа.
4. Кухонная прылада.
5. Збожжа.

Чытаючы літары на месцы крыжыкаў згары ўніз атрымаем псэўдонім бел. пісьменьніка.

За разьвязаньне круцігалоўкі № 1, улажэньне рассыпанкі № 1 і адгаданьне загадкі № 1 Рэд. Шл." вышле, як нагароду, грам. Ул. Шымко „Новую Зямлю" Я. Коласа, а грам. Э. Жверэльле і І. Пупіну будзе высылацца „Шл. М." праз паўгода бясплатна. — За разьвязаньне круцігаловак зьмешчаных у гэтым нумары будуць так-жа разданы нагароды.